Козік, Л. А. Прыватызацыя як сродак эканамічнай мадэрнізацыі Польшчы ў канцы 1980-х–пачатку 1990-х гг. / Л. А. Козік // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 265–269.

***Л. А. КОЗІК***

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЯК СРОДАК ЭКАНАМІЧНАЙ МАДЭРНІЗАЦЫІ ПОЛЬШЧЫ Ў КАНЦЫ 1980-х — ПАЧАТКУ 1990-х гг.

Адным са сродкаў эканамічнай мадэрнізацыі грамадства з'яўляецца правядзенне прыватызацыі, якая спрыяе развіццю фондавага рынку, забяспечвае фінансавую збалансаванасць краіны і прыток замежных інвестыцый, стварае новыя працоўныя месцы і павышае эфектыўнасць работы прадпрыемстваў. У сацыяльным плане яна прыводзіць да змен у менталітэце насельніцтва, што праяўляецца ў росце прадпрымальніцкай актыўнасці, змене каштоўнасцей і светаўяўленняў, узнікнення новых месцаў працы і адпаведна крыніц даходаў, развіцця сферы паслуг і з'яўлення новага сярэдняга класа.

Пачатак эканамічнай мадэрнізацыі Польшчы можна аднесці да 1982 г., калі польскі ўрад абвясціў правядзенне рэформы з мэтай стварэння новага гаспадарчага механізма. У яе аснове ляжаў частковы пераход да рынкавых адносін. На жаль, рэформа не прынесла чакаемага плёну, бо без кардынальных змен у самой сістэме чакаць станоўчых вынікаў не даводзілася. Тым не менш яшчэ ў 1982 г. дзяржава дазволіла ствараць невялікія прыватныя фірмы, колькасць якіх у 1989 г. склала 290 тысяч. Іх развіццё ў параўнанні з дзяржаўнымі прадпрыемствамі ішло больш хуткімі тэмпамі, хаця яны давалі толькі 5 % ад агульнага продажу прадукцыі. Колькасць занятых у прыватным сектары таксама была нязначнай (700 тыс. з 5 млн рабочых у краіне). У 1980-я гг. у Польшчы актыўна ствараліся недзяржаўныя гандлёвыя ўстановы, колькасць якіх вырасла з 10 тыс. у 1980 г. да 72 тыс. у 1989 г. У значнай ступені яны дазвалялі зменшыць бачнасць недахопу тавараў у краіне. У кастрычніку 1987 г. польскае кіраўніцтва абвясціла другі этап рэформ, на-



кіраваных на ліквідацыю інфляцыі, выроўніванне цэн, стварэнне самастойных прадпрыемстваў і ліквідацыю цяжкасцей у развіцці розных форм гаспадарання [1, с. 437, 442].

Рэалізацыя пастаноў адбывалася ў складаных умовах: насельніцтва не давярала партыйнаму кіраўніцтву, у краіне рос аўтарытэт апазіцыйных аб'яднанняў, у першую чаргу незалежнага прафсаюза «Салідарнасць», значная частка партыйных функцыянераў выступала супраць любых змен у эканамічнай і палітычнай сферах. Тым не менш створаны ў верасні 1988 г. урад М. Ф. Ракоўскага паспрабаваў «палепшыць» сістэму з дапамогай лібералізацыі эканомікі. 23 снежня 1988 г. быў прыняты закон, які дазваляў ствараць новыя прыватныя кампаніі на аснове прадаваемых нерэнтабельных дзяржаўных прадпрыемстваў. Яго рэалізацыя прывяла да ўзнікнення да канца 1989 г. 2193 кампаній, якія належалі пераважна партыйным дзеячам і ў народзе атрымалі назву «наменклатурныя». Прыватная дзейнасць набыла найбольшае распаўсюджанне ва ўнутраным гандлі (у 1989 г. яго ўдзел складаў 59,5 %, а занятасць — 72,7 %), на другім месцы ішло будаўніцтва, потым прамысловасць, транспарт і сродкі сувязі. У выніку пад канец 1989 г. недзяржаўны сектар, выключаючы сельскую гаспадарку, ахопліваў 10,1 % усёй колькасці рабочых і 14 % ад колькасці працоўных, не звязаных з сельскай гаспадаркай, а яго ўдзел у нацыянальным прыбытку складаў 9,6 % [2, с. 98, 99]. Такім чынам першы крок на шляху сістэмных пераўтварэнняў у сферы эканомікі быў зроблены, але для далейшых дзеянняў неабходна была добра распрацаваная праграма.

Створаны ў жніўні 1989 г. урад Т. Мазавецкага заявіў аб намеры правесці радыкальную структурную перабудову ў сацыяльна-эканамічным жыцці грамадства. Гэта знайшло адлюстраванне ў распрацаванай групай эканамістаў на чале з міністрам фінансаў Л. Бальцаровічам праграме, якая пачала рэалізоўвацца з 1 студзеня 1990 г. Сярод яе асноўных састаўляючых, такіх як правядзенне манетарысцкай палітыкі, лібералізацыя цэн, барацьба з інфляцыяй і інш., было заяўлена аб перабудове структуры ўласнасці. Прадугледжвалася некалькі магчымых варыянтаў раздзяржаўлівання: 1) стварэнне на базе дзяржаўных прадпрыемстваў акцыянерных таварыстваў; 2) перадача аб'ектаў ва ўласнасць органаў мясцовага самакіравання; 3) продаж маёмасці праз аўкцыёны ўсім зацікаўленым асобам і арганізацыям, у тым ліку замежным. Меркавалася, што да 1993 г. у прыватную ўласнасць пяройдзе 50 % прадпрыемстваў.

Закон аб прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў быў прыняты 13 чэрвеня 1990 г. і ўступіў у дзеянне 1 жніўня таго ж года. Ён прадугле-



джваў продаж дзяржаўнай маёмасці, увядзенне льгот для працоўных прыватызуемага прадпрыемства (у выпадку калі яны хацелі стварыць на яго базе акцыянернае таварыства) і закладваў аснову для будучай

масавай прыватызацыі. У законе вызначаліся і два асноўныя метады пераводу маёмасці ў прыватную ўласнасць: 1) фондавая і 2) ліквідацыйная (або прамая) прыватызацыя. Больш дэталёва механізмы раздзяржаўлівання ўласнасці былі прапісаны ў дадатковых пастановах 1993 г. і новым законе аб прыватызацыі, які быў прыняты ў 1996 г. [3, с. 76—77].

Ужо на першым этапе рэалізацыі праграмы Л. Бальцаровіча і закона аб прыватызацыі польскія ўлады сутыкнуліся з цяжкасцямі, вызванымі падзеннем жыццёвага ўзроўню большасці насельніцтва, ростам інфляцыі, нежаданнем патэнцыяльных замежных інвестараў укладаць капіталы ў польскую эканоміку. У выніку спадзяванні на прыток грошай у бюджэт краіны за кошт прыватызацыі не апраўдаліся. Праблема заключалася і ў тым, што да 1990 г. большасць дробных і сярэдніх прадпрыемстваў, у першую чаргу ў галіне гандлю, ужо знаходзіліся ў прыватнай уласнасці, а жадаючых набыць сярэднія ці буйныя прадпрыемствы было няшмат. Прычына гэтага крылася ў невысокім узроўні матэрыяльнай забяспечанасці большасці палякаў і нестабільнасці эканомікі. Не апраўдваліся і спадзяванні польскага ўрада на прыток замежных інвестыцый. Справа ў тым, што закон ад 14 чэрвеня 1991 г. аб прадпрыемствах з удзелам замежнага капітала не прадугледжваў якіх-небудзь ільгот для іншаземцаў, якія дзейнічалі на роўных з палякамі правах. Адмоўнымі фактарамі таксама з’яўляліся вялікая знешняя запазычанасць польской дзяржавы перад Захадам, палітычная і эканамічная рызыка, выкліканая нявызначанасцю заканадаўчых і працэдурных норм дзеяння [3, с. 96; 4, с. 33].

Да канца першага квартала 1991 г. было прыватызавана каля 150 сярэдніх прадпрыемстваў, якія ў асноўным былі выкуплены рабочымі. Што тычыцца буйных аб’ектаў, колькасць якіх у Польшчы дасягала каля 5 тыс., то да канца першага квартала 1991 г. пяць было прададзена шляхам адкрытага продажу акцый, два — замежным інвестарам і адно выкуплена калектывам. Усяго ж у 1991 г. было прададзена па розных даных ад 40 да 50 буйных прадпрыемстваў. Каля 60 прадпрыемстваў пераўтварыліся ў акцыянерныя таварыствы, якія фармальна належалі дзяржаўнай казне [5, с. 446—447].

Фактычным пачаткам пераходу дзяржаўнай маёмасці ў прыватныя рукі стала так званая «малая прыватызацыя» ў галіне гандлю, грамадскага харчавання і паслуг, якая праходзіла ў 1990—1992 гг. У выніку 97 %



усіх рознічных магазінаў, гандлёвых кропак, рэстаранаў і прадпрыемстваў у сферы паслуг былі прыватызаваныя. Малая прыватызацыя не рэгламентавалася ні спецыяльным заканадаўствам, ні дзяржаўнымі праграмамі. Асноўную праблему ў гэтай сувязі ўрад бачыў у высвятленні пытання ўласнасці нерухомасці, дзе знаходзіліся крамы ці прадпрыемствы [3, с. 92].

У выніку правядзення «малой прыватызацыі» колькасць прыватных фірм вырасла з 1118 тыс. у 1990 г. да 1699 тыс. у 1992 г., занятасць насельніцтва — з 48,9 % у 1990 г. да 56 % у 1992 г., а ўдзел у рэалізацыі прамысловай прадукцыі за той жа перыяд павялічыўся на 13,5 %. Такая тэндэнцыя захоўвалася і ўсярэдзіне 1990-х гг. [3, с. 92].

Усяго ж са жніўня 1990 да канца 1994 г. у працэс прыватызацыі было ўключана 2637 прадпрыемстваў (28 % ад агульнай колькасці) і больш 20 % камунальнай уласнасці [6, с. 174]. З 1993 г. працэс прамой прыватызацыі запаволіўся. Гэта было звязана, з аднаго боку, са змяншэннем колькасці сярэдніх і малых прадпрыемстваў, якія можна было прадаць, а з другога — са спадзяваннямі на паляпшэнне фінансавых умоў для правядзення прамой прыватызацыі ў сувязі з прыняццем новага закону аб прыватызацыі [3, с. 85]. Больш таго, не існавала дастатковай заканадаўчай базы, якая б рэгулявала працэдуру прамой прыватызацыі.

У 1993 г. былі прынятыя два законы. Першы рэгламентаваў рэструктурызацыю прадпрыемстваў і банкаў і вызначаў банкаўскую працэдуру ліквідацыі запазычанасці прадпрыемстваў. Другі закон предугледжваў вызначэнне стратэгічна важных для дзяржавы прадпрыемстваў (вуглездабываючая, абаронная, энергетычная і г. д.) і ўсталёўваў асобныя правілы прыватызацыі [3, с. 77]. Але і гэтыя пастановы не дазвалялі канчаткова перайсці да масавай прыватызацыі. Больш таго, яе правядзенне было адкладзена на некаторы час пад уплывам шэрагу фактараў. Перш за ўсё сказаўся вопыт суседніх краін, які паказаў магчымасць росту сацыяльнай напружанасці і крыміналізацыі эканамічных адносін. Па-другое — эканамічная сітуацыя ў краіне, калі адсутнічала група людзей, гатовых укладваць сродкі ў вытворчасць. У выніку асноўныя мерапрыемствы па правядзенні масавай прыватызацыі можна аднесці да 1996 г.

Такім чынам, прааналізаваўшы першыя крокі ў працэсе правядзення прыватызацыі ў Польшчы, можна канстатаваць, што стварэнне шырока развітага прыватнага сектара ў значнай ступені спрыяла фарміраванню сацыяльна-эканамічнай стабільнасці ў Польшчы ўсярэдзіне 1990-х гг. Так, у 1998 г. удзел прыватнага сектара ў вытворчасці прамыс-



ловых тавараў складаў 69,1 % пры занятасці 70,1 %, у будаўніцтве — адпаведна 93,7 і 91,3 %, унутраным гандлі — 95,0 і 97,2 %, транспарце і сродках камунікацыі — 53,7 і 34,9 % [2, с. 99]. Прыведзеныя даныя сведчаць не толькі аб узрастанні вагі недзяржаўнага сектара ў ВУП, але і ў змяненні сацыяльнай структуры грамадства.

## ЛИТЕРАТУРА

1. *Friszke, A.* Polska. Losy państwa i narodu. 1939—1989 / A. Friszke. Warszawa: Wydawnictwo ISKRY, 2003. 517 s.

2. Pierwsza dekada niepodleglosci: Próba socjologicznej syntezy / pod. red. E. Wnuk-Lipińskiego i M. Ziółkowskiego. Warszawa: Instytut Studiów Politycznych Polskiej Akademii Nauk, 2001. 348 s.

3. Приватизация в странах Центральной и Восточной Европы: первые результаты: сб. ст. М.: РАН, 1998. 221 с.

4. *Гелб, А. Х.* Экономические преобразования в странах Центральной и Восточной Европы (проблемы, тенденции, перспективы) / А. Х. Гелб, Ч. Грей; пер. с англ. М.: АО Изд. группа «Прогресс», «Универс», 1995. 112 с.

5. Становление рыночной экономики в странах Восточной Европы / пер. с англ.; общ. ред. и предисл. Н. А. Макашевой. М.: РГГУ, 1994. 544 с.

6. Центрально-Восточная Европа во второй половине XX века: в 3 т. / редкол. А. Д. Некипелов [и др.]. М.: Наука, 2002. Т. 3: Трансформации 90-х годов. Ч. 2. 2002. 464 с.